*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 38 (577) 2 КАСТРЫЧНІКА 2002 г.

# Купіць бедных паэтаў цяжэй, чым прыкормленых прафсаюзных босаў



**Былы старшыня СБП Вольга Іпатава віншуе новага старшыню Алеся Пашкевіча**

24 верасня ў Доме літаратара прайшоў нечарговы XIV з'езд Саюза беларускіх пісьменнікаў. На ім прысутнічалі 333 дэлегаты, а таксама шмат гасцей, сярод якіх былі памочнік прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Іван Карэнда, міністр культуры Рэспублікі Беларусь Леанід Гуляка, міністр адукацыі Рэспублікі Беларусь Пётр Брыгадзін, міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Міхаіл Падгайны і іншыя. Адкрыў з'езд народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль. Пра стан нацыянальнай літаратуры і перспектывы яе развіцця даклад зрабіла старшыня СБП Вольга Іпатава. У абмеркаванні яе выступлення прынялі ўдзел Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Сяргей Законнікаў, Алег Лойка, Уладзімір Дамашэвіч, Мікола Мятліцкі і іншыя. На пытанні дэлегатаў з'езду адказвалі – памочнік прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Іван Карэнда, а таксама ўсе міністры.

На парадку другой паловы з'езду стаяла арганізацыйнае пытанне. Кандыдатамі на пасаду старшыні СБП былі вылучаны Вольга Іпатава, Анатоль Бутэвіч, Уладзімір Ліпскі, Мікола Мятліцкі і Алесь Пашкевіч. Пасля абмеркавання кандыдатур і самаадводаў у бюлетэні для таемнага галасавання былі запісаны Уладзімір Ліпскі і Алесь Пашкевіч. На абмеркаванне дэлегатаў з'езду быў прапанаваны новы склад Рады СБП. У спіс для таемнага галасавання ўключылі 58 пісьменнікаў.

У галасаванні прынялі ўдзел 292 чалавекі. Вынікі галасавання: "за" Уладзіміра Ліпскага прагаласавалі 118 чалавек, "супраць" – 159; , "за" Алеся Пашкевіча 159, "супраць" – 118. 15 бюлютэняў былі несапраўднымі. Такім чынам старшынём Саюза беларускіх пісьменнікаў большасцю галасоў быў абраны Алесь Пашкевіч. У новы склад Рады СБП выбрана 45 чалавек.

Некаторыя высновы з вынікаў з'езду. Спроба ўладаў прымяніць да СБП прафсаюзную схему змены кіраўніцтва правалілася. Старшынём абраны Алесь Пашкевіч, прапанаваны былым кіраўніцтвам СБП. З'езд вычысціў са складу Рады СБП амаль усіх "гэкачэпістаў", г. зн. тых, хто настойліва ініцыяваў гэты з'езд. Пад гарачую руку трапіў, нават, Іван Шамякін, мабыць сказалася апошняя прэмія.

З'езд узяў курс на самастойнае існаванне Саюза і паставіў начале арганізацыю каманду маладых менеджараў.

З'езд выказаў гатоўнасць на супрацоўніцтва Саюза з уладай на грунце рэальнага павароту дзяржавы ў бок беларускай мовы і беларускай літаратуры. Разам з тым, нягледзячы на шматзначныя намёкі, пісьменнікі пакінулі з'езд з ахвярным пераканаННем, што стаяць ім у бітве за Беларусь давядзецца самім, без усялякай надзеі на дзяржаву, што сёння саюзнік пісьменніка не чыноўнік, а беларускае грамадства. У гушчы народа і натхненне пісьменніка, і сіла, і магчымасць жыць, тварыць, друкаваць. Іншага пакуль не дадзена.

*Алесь (Аляксандр Аляксандравіч)* ***Пашкевіч*** *нарадзіўся 11 верасня 1972 г. у вёсцы Набушава Слуцкага роёна. У 1994 годзе скончыў філалагічны факультэт БДУ, у 1998-м – аспірантуру пры ім. Кандыдат філалагічных навук, сябар СБП з 1994 г. Працаваў у рэдакцыі газеты "Чырвоная змена", адказным сакратаром і намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Першацвет", загадчыкам аддзела паэзіі часопіса "Нёман", апошнім часам – выкладчык філфака БДУ.*

*Аўтар кнігі паэзіі "Нябесная сервента" (1994 г.), дакументальнага рамана "Пляц волі" (2001 г.), літаратуразнаўчых манаграфій "Зваротныя дарогі" (2001 г.) і "Канцэпцыя нацыянальнага быцця ў беларускай літаратуры" (2002 г.).*

## Рада СБП, абраная на 14-м з'ездзе СБП

Васіль Быкаў
Ніл Гілевіч
Рыгор Барадулін
Эдуард Акулін
Уладзімір Арлоў
Алесь Бадак
Раіса Баравікова
Лявон Баршчэўскі
Алесь Бельскі
Данута Бічэль
Генадзь Бураўкін
Анатоль Бутэвіч
Пятро Васючэнка
Анатоль Вярцінскі
Генрых Далідовіч
Леанід Дранько-Майсюк
Аляксей Дудараў
Алесь Жук
Сяргей Законнікаў
Васіль Зуёнак
Вольга Іпатава
Віктар Казько
Алесь Камароўскі
Алесь Каско
Анатоль Кудравец
Уладзімір Ліпскі
Алег Лойка
Адам Мальдзіс
Алесь Масарэнка
Алесь Наварыч
Алесь Пашкевіч
Уладзімір Паўлаў
Алесь Пісьмянкоў
Барыс Пятровіч
Вячаслаў Рагойша
Людміла Рублеўская
Янка Сіпакоў
Франц Сіўко
Міхась Скобла
Васіль Ткачоў
Андрэй Федарэнка
Кастусь Цвірка
Віктар Шніп
Уладзімір Ягоўдзік
Эрнест Ялугін

## Рэзалюцыя XIV з'езду СБП

Мы, дэлегаты XIУ, нечарговага, з'езду беларускіх пісьменнікаў, усведамляючы лёсавызначальную адметнасць і значнасць моманту, які перажывае сёння наша краіна, і застаючыся вернымі той грамадзянскай пазіцыі, якую на працягу стагоддзяў адстойвалі лепшыя прадстаўнікі нашага народа, лічым сваім патрыятычным абавязкам і сваёй прафесійнай задачай служыць святой, высакароднай справе нацыянальнага, культурнага і духоўнага Адраджэння, справе станаўлення Беларусі як суверэннай, незалежнай, дэмакратычнай дзяржавы.

Мы рашуча пратэстуем супраць палітычнага гандлю незалежнасцю нашай Айчыны, супраць імперскіх памкненняў расійскіх улад інкарпараваць Беларусь у склад Расійскай Федэрацыі. Адначасова выказваем занепакоенасць унутранай палітыкай беларускіх уладных структур, скіраванай на размыванне беларускай дзяржаўнасці, перш за ўсё ў нацыянальна-культурнай і адукацыйнай сферах. Мусім сведчыць, што ў краіне мэтанакіравана і паслядоўна праводзіцца русіфікацыя, што мова карэннай нацыі, па сутнасці, выцясняецца з ужытку ў дзяржаўных установах, у дзіцячых садках, у агульна-адукацыйнай і вышэйшай школе, у сродках масавай інфармацыі, у візуальных медыя і рэкламе, у назвах і шыльдах і г.д. Кніжны рынак краіны запалонены нізкапробнай прадукцыяй, у асноўным замежнага паходжання, што разам з іншымі адмоўнымі чыннікамі вядзе да краху беларускага кнігадрукавання.

Відавочна, што адносіны паміж уладаю і беларускай пісьменніцкай арганізацыяй набылі канфрантацыйны характар: у афіцыйных сродках масавай інфармацыі ідзе няспынная шальмаванне вядомых у Беларусі і далёка па-за яе межамі літаратараў; незаконна адчужаецца ўласнасць Саюза беларускіх пісьменнікаў – Дом літаратара і будынак паліклінікі; гвалтоўна, з грубым парушэннем юрыдычных нормаў змены статус рэдакцый перыядычных літаратурных выданняў і газеты "Літаратура і мастацтва".

Мы, беларускія пісьменнікі, лічым, што літаратура, як адзін з галоўных складнікаў культуры і духоўнага самасцвярджэння нацыі, павінна па праву займаць годнае месца, карыстацца паважлівымі адносінамі і падтрымкай з боку дзяржавы і грамадства, як гэта робіцца ва ўсіх цывілізаваных краінах свету.

Мы цвёрда заяўляем пра свае чалавечае, грамадзянскае і прафесійнае права на свабоду думкі і слова, на актыўныя кансалідаваныя дзеянні ў абарону нацыянальнай годнасці беларуса, дэмакратыі, правоў чалавека і сацыяльнай справядлівасці.

Найпершым неабходным крокам на шляху нацыянальнага Адраджэння лічым забеспячэнне дзяржавай, як вышэйшай арганізацыйнай структурай народа, належных умоў для існавання і рэальнага ўжытку ва ўсіх сферах жыцця краіны беларускай мовы.

**Мы патрабуем ад уладаў:**

практычна ажыццяўляць Закон аб мовах і адпаведную канстытуцыйную норму;

аднавіць адменены ў гэтым годзе Міністэрствам адукацыі экзамен па беларускай літаратуры ў сярэдняй школе;

з мэтай вяртання беларускай кнігі на кніжны рынак рэспублікі тэрмінова вызначыць і ажыццявіць эфектыўныя пратэкцыянісцкія меры па падтрымцы айчыннага кнігадрукавання, увесці падаткі з продажу для замежных выдаўцоў і выкарыстоўваць гэтыя сродкі для развіцця нацыянальнай культуры, літаратуры і мастацтва;

для нармалізацыі сучаснага літаратурнага працэсу, вяртання яго ў спрыяльнае творчае рэчышча перагледзець рашэнне аб стварэнні рэдакцыйна-выдавецкай установы, так званага медыя-холдынгу "Літаратура і мастацтва";

адмяніць распараджэнне прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 1 ліпеня 1997 года за № 182, вярнуць Саюзу беларускіх пісьменнікаў яго законную ўласнасць – Дом літаратара і будынак паліклінікі.

З'езд выказвае ўпэўненасць, што творчая і грамадская дзейнасць кожнага беларускага пісьменніка будзе вызначацца вернасцю высокім прынцыпам грамадзянскай адказнасці за лёс роднай літаратуры і лёс Бацькаўшчыны, як незалежнай, дэмакратычнай, свабоднай дзяржавы.

**Дэлегаты XIV з'езду беларускіх пісьменнікаў.**

**Сп. Алесю Пашкевічу,**
**Старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў**

**Шаноўны спадар Алесь!**

Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны шчыра віншуе Вас з абраннем на пасаду Старшыні пісьменніцкай арганізацыі Беларусі. Гэта пачэсна, прыемна і, разам з тым, адказна. Выбар з'езду засведчыў перамогу здаровага сэнсу разняволеных творцаў, перамогу дабра над злом, праўды над хлуснёй. Спадзяемся, што такі ашаламляльны давер калегаў па пяры аднаму з маладых сяброў Саюза будзе для Вас добрым стымулам у працы на гэтай пасадзе.

Дзякуй Богу, у Вас ёсць ад каго вучыцца жыццёвай мудрасці, дыпламатыі, майстэрству лідара.

Таварыства беларускай мовы жадае Вам поспехаў, моцы, здароўя, радасцяў, дабрабыту, а перадусім – плёну ў творчасці.

Спадзяемся на добрыя стасункі і супрацоўніцтва паміж нашымі грамадскімі арганізацыямі.

**З павагай Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Алег Трусаў.**



№ 38 (577) 2 КАСТРЫЧНІКА 2002 г. НАША СЛОВА

# Літаратура і перспектывы яе развіцця

( Даклад Вольгі Іпатавай на XIV з'ездзе Саюза беларускіх пісьменнікаў)

Пяць дзён назад тут, у зале, ішоў семінар маладых літаратараў. Свае вершы і прозу чыталі Валерыя Кустава і Рыгор Цісецкі, Святлана Сінкевіч, Васіль Пешкаў і іншыя – чыталі натхнёна, часам, нават, не зважаючы на рэгламент, шчаслівыя ад таго, што іх слухаюць не толькі аднагодкі, але і сталыя літаратары. А мы дзівіліся таму, наколькі высокі, ужо амаль прафесійны ўзровень дэманструюць тыя, хто сёння толькі ўваходзіць у літаратуру нашай Беларусі, хто прыязджае ў Саюз пісьменнікаў па кансультацыі і хто прыходзіць сюды штотыдзень – у рэгістрацыйным журнале Алеся Масарэнкі такіх каля чатырохсот. Яны ўжо іншыя, чым мы — самі шукаюць спонсараў ці збіраюць грошы на свае першыя запаветныя кніжкі прозы і паэзіі, а часам і выдаюць іх самастойна ў рознага кшталту выданнях

У Саюзе даўно спела задума – сабраць разам усе тыя кніжкі і кніжачкі, інфармацыйныя лісткі і часопісы, часам ледзь не самаробныя, якіх шмат – такі выпускаецца па ўсёй Беларусі, і дэталёва прааналізаваць іхнія творчыя здабыткі. Не сакрэт – частка літаратурнага працэсу, асабліва маладзёвага, даўно ўжо творыцца менавіта па-за афіцыйнымі выданнямі і выдавецтвамі, у часопісах "Arche" і "Nichil", "Дзеяслоў", у выданнях "Берасцейскага вогнішча", "Жыровіцкім лістку", "Саламеі", "Рагнедзе", гімназічных літаратурных выданнях Магілёва, Гародні, Маладзечна, у праектах "Нашай Нівы" ці "Свабоды". Не ў афіцыйных, а часам і не ў сталічных выданнях выйшлі значныя па сваім мастацкім узроўні кнігі "Ушанаванне" і "Галгофа" Алега Лойкі, "Пакліканыя" Лідзіі Савік, "Антычны дождж" Валянціны Аксак, "Зваротныя дарогі" Алеся Пашкевіча, "Турэмны дзённік" Славаміра Адамовіча, анталогія "Верш на свабоду", а таксама і творы Васіля Быкава, і тры апошнія аповесці Алеся Адамовіча, якія раней не выходзілі асобнымі выданнямі, і многае іншае, што дае ўсе падставы для аптымізму пры думцы аб тым, ці канкурэнтаздольная сёння наша літаратура і ці выжыве яна ў далейшым..

Разам з тым асноўнай, калі так можна сказаць, базай літаратурнага працэсу да нядаўняга часу былі тыя выданні, заснавальнікам якіх быў і застаецца – калі звяртацца да закону – Саюз беларускіх пісьменнікаў.

Жорсткая цэнзура вось ужо каторы месяц на ўсё, што робіцца ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў, уведзеная ў газеце "Літаратура і мастацтва", бяспрэцэдэнтны гвалтоўны захоп нашых выданняў і забарона на творы, падрыхтаваныя да друку іх ранейшымі калектывамі, пераследаванні пісьменнікаў (Язэпа Янушкевіча вось ужо колькі месяцаў пераследуе валожынская міліцыя, Адама Мальдзіса ўчора падпільнавалі ля самага пад'езда і жорстка збілі) – вось асноўныя рысы сённяшняга нашага становішча, якое прымусіла склікаць надзвычайны з'езд пісьменнікаў меней, як праз паўтары гады пасля мінулага з'езду.

Усе памятаюць гэты з'езд і надзеі на паляпшэнне становішча, якое і тады было вельмі нялёгкім, але з пазіцый сённяшняга часу здаецца ледзь не аптымістычным: тады ішло сціплае фінансаванне дзейнасці Саюза пісьменнікаў і нашыя выданні праводзілі адносна незалежную палітыку друкавання таго лепшага, што ёсць сёння ў нашай літаратуры. Адносна – таму што пры дзяржаўным фінансаванні і "ЛіМ" стараўся быць асцярожным, і "Полымя" балансавала на грані недазволенага, таго, што выклікала незадавальненне ўлад і што было адразу ж забаронена новым рэдактарам і новым палітупраўленнем, якое афіцыйна называецца "кіраўніцтвам холдынга". Ды і Саюз пісьменнікаў імкнуўся звесці дзве рэзка супрацьлеглыя пазіцыі сваіх сябраў у нейкае хаця і нетрывалае, але так патрэбнае для нацыянальнай ідэі адзінства, якое б дазволіла супыніць ашальмоўванне лепшых, таленавіцейшых творцаў у дзяржаўных сродках масавай інфармацыі, спыніць злачыннае растрачванне духоўнага патэнцыялу пісьменнікаў на супрацьціўленне надта ж няспрыяльным умовам іхняга фізічнага і творчага існавання.

Тады, у траўні 2001 года, здавалася, што ёсць магчымасць раўнапраўнага дыялогу з тымі дзяржаўнымі структурамі, якія адказваюць за культуру. Надзею на гэта давалі і абяцанні высокіх дзяржаўных чыноўнікаў тут, у гэтай зале, і вітанне прэзідэнта краіны пісьменнікам. Гаварылася і аб будучых шырокіх планах па друкаванню беларускіх кніг, і аб вяртанні нашага Дома літаратара. Для гатовых паверыць у цудоўныя сыходы Святога Духа ў заскарузлыя антыбеларускія душы нашых ураднікаў, нешта як бы засвяцілася на гарызонце, хаця пачуццё небяспекі шаптала словамі паэта, які прайшоў праз "шчырыя" абдымкі ўлады і ледзь не задыхнуўся ў іх: "Усё роўна ашукаюць!"

Сённяшнія надзвычай жорсткія дзеянні ўладаў былі абумоўленыя і тым, што Саюз беларускіх пісьменнікаў так і не стаў апорай і падтрымкай сённяшняй улады, і агульнай канцэпцыяй паслявыбарчага жыцця Беларусі – навязненнем "новага парадку."

"Новы парадак" закрануў многія грамадскія арганізацыі і творчыя саюзы, нават тыя, хто імкнуўся згуртавацца "вакол" і "каля". На сённяшні дзень закрыты банкаўскі рахунак нават Саюза кампазітараў (ды кампазітары, дарэчы, не наладзілі усенароднае лінчаванне свайго старшыні). Ацалелі толькі фінансава незалежныя саюзы, якія ў свой час паклапаціліся аб прыватызацыі маёмасці і напоўніцу выкарысталі льготы, якія летась былі дадзеныя ўрадам Канфедэрацыі творчых суполак, у якія ўваходзіць і наш Літфонд.

Але Літфонд не стаў падтрымкай Саюзу пісьменнікаў (а часам — толькі дадатковым цяжарам) у неверагодна цяжкі перыяд, калі пачалося канчатковае разбурэнне той структуры, якая была задуманая ў далёкія 30-я гады як. прывадны пас таталітарнай ідэалогіі — а, менавіта, прывязанага да ўлады фінансаваннем, шчодрымі ўзнагародамі і чыноўніцкай увагай асяродка.

І ўсё ж нават тады, пры стварэнні, ён, наш Саюз, нагадваў тую фантастычную, знаёмую ўсім птушку, у якой дзве галавы павернутыя ў розныя бакі. Адна яго галава была павернутая да ўлады і ўмільна, як гэта апісвае Уладзімір Ліпскі ў якасці ўзора для сённяшняга кіраўніцтва, сачыла за яе манаршымі міласцямі і выпрошвала іх. Другая ж зазірала ў вольны, неабсяжны свет творчасці, якая немагчымая без свабоды, і паступова перацягвала стварэнне, акумулюючы духоўныя памкненні нацыі і робячыся духоўным аўтарытэтам і прыцягальнай сілай незалежнасці і захавання роднай мовы для беларусаў.

У гэтай дваістасці мы і жылі, у ёй блытаемся зараз, некаторыя не заўважыўшы, а іншыя – залеманатаваўшы ад роспачы і нянавісці – таго, што вось ужо год і чатыры месяцы мы жывём самастойна, што аброць улады не толькі не падтрымлівае хоць і зблажэлага, але жывога коніка пісьменніцкай фурманкі, а душыць яго нібыта ціха, але надта ж адчувальна.

Мабыць, калі б стварайся новы саюз, было б лягчэй. У свядомасці сузаснавальнікаў не было б панавання даўніх міфаў, а цвярозае разуменне, што той даўні час скончыўся, што мы жывём у іншай дзяржаве, з іншым падыходам улады да нацыянальнай ідэі і яе творцаў. А значыць, і жыць, і трымаць свой Саюз трэба інакш.

Старшыню абвінавачваюць у бяздзейнасці. У няўменні адшукаць той запаветны ключык да дзвярэй, за якімі залатыя горы урэшце надрукаваных кніг і прэм'ер-міністр просіць прабачэння за затрымку друкавання.

Але мы павінны зразумець — за тымі запаветнымі дзвярыма – толькі мільярдныя даўгі дзяржавы па заробку, там тыя ж самыя абяцанні аддаць дом – дом, які, па самых грубых падліках, мог бы прынесці самім



творцам за пяць гадоў канфіскацыі прыкладна па 200 тысяч —не меней як мільён уяўных адзінак, тых самых, зялёных, якія сталі папракаць адзін аднаго і пісьменнікі – уявіце сабе, колькі забрана ў нас праграм, колькі кніжак можна было б надрукаваць за тыя грошы!

Магу заявіць — я зрабіла ўсё магчымае, каб пераканаць кіраўніцтва краіны ў абсурднасці існых сёння адносін да пісьменнікаў, непавагі да іхняга клопату пра мову і культуру нашай нацыі. У лісце да прэзідэнта я напісала: "Не адказваючы на лісты, ваша ўлада зневажае не мяне – я сціплы творца і не прэтэндую на Вечнасць. Яна зневажае тыя вялікія і сапраўды значныя для сусветнай культуры імёны, якія застануцца ў ёй і якія вызначаюць новае мысленне XXI стагоддзя".

Гэта не мы не ідзём на раўнапраўны дыялог, гэта ўлада адказвае нам гвалтам над выданнямі і літаратурным працэсам. Пісьменнікі звяртаюцца да народа, а значыць, і да часткі гэтага народа, сваімі творамі, бо такое права дадзена ім Усявышнім – будзіць сумленне, адстойваць незалежнасць і выступаць супраць гандлю краінай.

Ці ж не пра гэта гавораць сваімі прыпавесцямі Васіль Быкаў, вершамі і публіцыстыкай Ніл Гілевіч, Анатоль Казловіч, Васіль Якавенка, сваімі п'есамі Аляксей Дудараў, Алесь Петрашкевіч, Сяргей Кавалёў, сваімі вершамі усе пакаленні беларускіх паэтаў? Не буду называць імёны з усім вядомых абойма́ў – скажу толькі пра пакаленне трыццаці - саракагадовых, якое трывала – і на вялікі жаль, не заўсёды адпаведна таленту – ужо працуе ў літаратуры, упэўнена ідучы па прыступках майстэрства. Станцуь крыху больш спрыяльныя нацыянальнай ідэі дзяржаўныя інстытуты – напоўніцу загучаць імёны Андрэя Федарэнкі, Міхася Скоблы, Барыса Пятровіча, Алеся Бадака, Антаніны Хатэнкі, Янкі Лайкова. А ўслед ідуць тыя, каго толькі прынялі ці яшчэ вось-вось прымуць у Саюз беларускіх пісьменнікаў. Таму, як ніколі, я перакананая – Саюз наш трэба берагчы, нягледзячы ні на што—як высокапрафесійную аргнізацыю, як непаўторную з'яву нацыянальнага жыцця.

Ды беларуская літаратура яшчэ павінна адказаць на многія выклікі Часу, на тыя глабальныя змяненні эпох і цывілізацый, якія ўрастаюць у наша жыццё, як некалі эпоха хрысціянства ўрастала і перарастала эпоху паганства. І калі на ісламізацыю, якую прадказвалі яшчэ ў пачатку 90-х гадоў вядучыя сусветныя інстытуты прагнозаў развіцця чалавецтва, яна, наша літаратура, адказала выдатным раманам Юрыя Станкевіча "Любіць ноч - права пацукоў", на глабалізацыю і філасофію самазнішчэння - творамі Святланы Алексіевіч, на самазнішчальную плітыку – вострa-сатырычным раманам Яўгена Будзінаса "Дуракі", на закрыццё "Нашага слова" – самаадданай працай пісьменніка Станіслава Судніка — то на трагедыі асобы і неататалітарнага грамадства, на знікненне вядомых палітыкаў у Беларусі і адчайнае супраціўленне незалежнай прэсы, на гераізм маладафронтаўцаў, на зваднкі нашых палітыкаў і эміграцыю таленавітай моладзі, на бязлітасную жорсткасць у адносінах да журналістаў і інвалітацыю хлусні, бессаромнасці і гвалту, якая, як чумой, заражае ўсё грамадства – на гэта адказваць усё ж давядзецца, калі мы хочам называцца сумленнем краіны, і мне верыцца, што лепшыя нашы творы ўжо ляжаць у шуфлядах альбо ствараюцца ў той цішыні, за якую так часта папракаюць пісьменнікаў і без якой тварыць ўсё ж цяжка. Зрэшты, наша галоўная справа – добрыя творы, якія захопяць сэрца чытача, бо без яго, чытача, мы ў рэшце рэшт, папоўнім лік вымерлых народаў, бо на месца беларускай літаратуры непазбежна прыйдзе другая – свята месца не бывае пустым!

Сёння мы змаглі сабрацца ўсе разам – і гэта таксама не паражэнне сённяшняга кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў, а яго перамога. Яшчэ з часоў Замяталіна пастаянна рабіліся спробы удушэння, перапынення фінансавання, глыбокай ізаляцыі пісьменнікаў ад грамадства, калі нават на Днях пісьменства пісьменніку не давалі слова на трыбуне, замяняючы яго скокамі і спевамі.

Калі ўдумацца ў гэты час, час сённяшняй улады, то з 1994 года пры ўсіх трох старшынях Саюз пісьменнікаў не набываў, а толькі страчваў.

Пры Зуёнку у нас адабралі два дамы ў цэнтры горада. Пры Някляеве спрабавалі адабраць гонар усёй нашай грамады – спачатку далі яму тры пасады, а пасля сталі патрабаваць выплаты кампенсацыі за дзве з іх, дадаўшы сюды і гяонныя сапраўдныя грахі па "Крыніцы", хаця, як аказалася, можна было спакойна, без гучнага агалошвання, прасцей заплаціць даўгі дзяржаве і адпаведным органам. Бо ясна, што кіраўнікóм абіраюць не таго, хто лепей разбіраецца ў бухгалтэрыі...

Пры мне адабралі ўжо і фінансаванне, і нават нашыя выданні, не запытаўшыся пра тое і не ўзгадніўшы з Саюзам пісьменнікаў ніводнай пазіцыі. І не проста перасталі фінансаваць – зрабілі гэта без папярэджання, прымусіўшы нарошчваць даўгі, не даўшы нават юрыдычных падстаў звальняць супрацоўнікаў. Гэта быў, без перабольшвання, страшны час, бо ён быў напоўнены трагедыямі простых людзей, якія тут працавалі па 30-40 гадоў і засталіся прыніжанымі і зганьбаванымі, бо з імі не палічыліся нават паводле існых у нашай дзяржаве законаў.

Але гэты час самастойнага, амаль франтавога існавання важны тым, што ў беспрэцэдэнтных умовах пастаяннага цкавання, подлых інтрыг і ціхага ўдушэння наша арганізацыя выжыла і выстаяла, што маімі сапраўднымі намеснікамі і памочнікамі сталі тыя пісьменнікі, хто зразумеў – за сваю арганізацыю трэба змагацца. Як сказаў Ніл Сорскі, святы падзвіжнік: "Той, хто гаворыць, як трэба рабіць, кідае каменьчыкі ca званніцы, і яны пстрыкаюць па бруку. Той жа, хто хоча рабіць – цягае цяжкае каменне на тую званіцу, каб яна паднялася яшчэ вышэй". І я выказваю самую шчырую падзяку Алесю Рыбаку, Эрнесту Ялугіну, Васілю Якавенку, Веры Страмкоўскай, Галіне Каржанеўскай, Ніне Галіноўскай, Маргарыце Яфімавай і многім іншым, дзякуючы каму ўдалося трымацца і працаваць.





Удзячная я і тым арганізацыям, з якімі мы разам рабілі многія цікавыя мерапрыемствы, якія ўздымалі прэстыж пісьменніка ў грамадстве і наш Саюз пісьменнікаў — найперш ТБМ на чале з Алегам Трусавым і Асацыяцыі беларусістаў на чале з Адамам Мальдзісам. Я ўжо рабіла справаздачу на Радзе аб зробленым, і нікаму так званаму "аргкамітэту" не ўдасца замаўчаць ні міжнародны сімпозіюм з запрашэннем пісьменнікаў з 20 краін, ні адзінаццаць "круглых сталоў" па пытаннях мовы і літаратуры (за шаснаццаць месяцаў!), ні міжнародную канферэнцыю "Купала і незалежнасць", ні Рэспубліканскі конкурс на лепшы твор драматургіі, ні семінар маладых літаратараў, ні многае іншае, зробленае сённяшнім кіраўніцтвам, у тым ліку і выплату амаль двух мільёнаў запазычанасці па заробку (хачу, дарэчы, нагадаць і пра даўгі больш як за сотню тысяч даляраў, якія нам дасталіся яшчэ ад перадняклеяўскага кіраўніцтва і якія давялосятакі выплаціць нашай былой камандзе).

Дзве лічбы: за мінулы год Літфонд зарабіў – без дапамогі Міжнароднага літфонду – крыху больш за мільён рублёў. За апошнія шэсць месяцаў у Саюз пісьменнікаў было прыцягнута, як цяпер кажуць, каля чатырох мільёнаў інвестыцый. У мяне ёсць звесткі пра тое, што адобраныя два пададзеныя праекты, якія дадуць магчымасць хаця трохі перадыхнуць ад фінансавых клопатаў.

Стабілізацыя – а я магу цяпер з упэўненасцю гаварыць пра яе, нягледзячы на штучна зробленыя нам даўгі па камуналцы, якія пакуль што ўкладаюцца ў запазычанасць дзяржавы па бюджэтнаму, закладзенаму ў Закон 2001 года фінансаванню — была дасягнутая цаной таго, што мы з дабраахвотнай камандай памочнікаў у гэтыя амаль паўтары гады ўклалі ў працу ўсе свае сілы, здароўе і волю дзеля таго, што вось асабіста для мяне – можаце мяне крытыкаваць — важней за ўсё іншае: наш пісьменніцкі гонар, наша годнасць . Няўжо вы хацелі б, каб я скарылася гвалту і несправядлівасці, паклала ключы і, захныкаўшы, склала паўнамоцтвы, якія вы мне далі на захаванне Саюза пісьменнікаў? Каб пасля прэзідэнт сваім чарговым указам, са з'едлівым каментаром пра недарэкаўпісьменнікаў, прызначыў сюды іншага старшыню таму, што збегла гэтая?!

Так, былі ў маёй дзейнасці і памылкі. Назаву некаторыя з іх – гэта кандыдатуры намеснікаў, за якія я гатовая несці поўную адказнасць, хаця пры ўмовах фінансавання, магчыма, яны працавалі б не горш за ўсіх іншых. Гэта недастатковы кантроль за друкаваннем пастаноў і рэзалюцый мінулага з'езду і пакінуты ў драпежных кіпцюрах Літфонд. Гэта страчаныя для пошуку інвестыцый паўгода з-за пастаянных абяцанняў высокіх чыноўнікаў аднавіць фінансаванне, і празмерная асцярожнасць у той час адносна рэалій грамадскага жыцця, за што мяне справядліва крытыкавалі ў незалежніцкай прэсе. Аднак я абсалютна ўпэўненая ў тым, што з'езд у траўні праводзіць было рана ( хаця адбой яму давала не я). Сітуацыя была нявыспеленая, і на падыходзе не было той маладой каманды, якая пры любых выніках з'езду здольная была б застацца і прадухіліць распад Саюза пісьменнікаў, а таксама страту нашага Дома творчасці, над якім навісла пагроза недобрасумленнага продажу.

Цяпер сітуацыя іншая. Ёсць новая маладая каманда, не заплямленая ні апяваннем камуністычных ідэалаў, не замучаная капрызамі літзорак ці азначаная прыслугоўваннем перад уладай, гатовыя разам заўзята працаваць у новых жорсткіх умовах, дзе не саюз нам дае, а мы павінны даваць саюзу – свой клопат, свае праграмы; дзе Рада павінна быць не прадстаўнічым, а рабочым органам, гатовым выконваць неабходны аб'ём працы і па-сапраўднаму дапамагаць кіраўнікам; дзе трэба ставіць задачы стварэння ўласнага выдавецтва і змагацца за нашыя выданні – а змаганне гэтае толькі пачалося...

Хачу падкрэсліць, што ўсе пышныя пражэкты Міколы Мятліцкага ў газеце "Літаратура і мастацтва" я чытала з усмешкай. Усё, літаральна ўсё, што ён прапаноўвае, было не раз і не два напісанае яшчэ пры Някляеве кіраўніцтву краіны. І абяцанні; у тым ліку ўзяцца за выданне беларускіх кніг, разгледзець магчымасць выплаты Беллітфонду працэнтаў ад кожнай выдадзенай кнігі, і многае іншае, ужо былі, і не раз.

Вынік мы бачым увачавідкі. Настаў час абапірання на свае ўласныя сілы і на барацьбу за свае правы, бо абавязак дзяржавы— клопат пра культуру і нацыянальную літаратуру, як гэта робіцца ва ўсіх без выключэння краінах – дзе больш, дзе менш, але – заўсёды, павінен быць. Мы павінны даказваць і дабівацца гэтага ўсімі магчымымі законнымі спосабамі. Сумна ўсведамляць, што наперадзе не толькі стваральны, але найперш змагарны час.

Менавіта таму нам трэба праводзіць новыя выбары—Рады, праўлення Літфонду, здольнага займацца не выпрошваннем, а менеджментам, а сённяшняй старшыні, я спадзяюся, вы залічыце гэты час у надзвычайных , сапраўды ледзь не франтавых умовах за неабходныя чатыры гады. І менавіта таму трэба цвёрда паставіць у Статуты абедзвюх арганізацый умову кіравання імі адной асобай – старшынём Саюза пісьменнікаў.

Апроч іншага, цяпер усе мы, бачныя воку фігуры сённяшняга з'езду, як у шахматнай гульні, стаім кожны на сваёй пазіцыі. І пазіцыі гэтыя вызначаныя: вольнае плаванне і самастойны пошук крыніц існавання, ды затое – свабода думак і выказванняў, адстойванне пісьменніцкай годнасці і вяртанне сваёй вызначальнай ролі ў незалежнасці нашай Беларусі – сапраўднай незалежнасці, а не вызначанай палітычнымі гульнямі. Альбо — зноў жа вера ў раптоўнае нашэсце Святога Духа ў антыбеларускія душы сённяшніх правадыроў, у іхні клопат пра літаратуру. Зноў тое ж кола, толькі больш жорсткае, якое ўжо не можа цярпець нават маўклівую апазіцыю, а патрабуе поўнай адданасці і згуртавання вакол творцаў "новага парадку".

Рэаліі паказваюць: дэмакратычнаму пісьменніку супрацоўнічаць з гэтай уладай немагчыма.

Менавіта таму гэты з'езд, як ніякі іншы, вызначальны і па-сапраўднаму лёсаносны.

Менавіта таму на нас глядзіць сёння і міжнародная грамадскасць, якая саюзамі пісьменнікаў Літвы, Эстоніі, Украіны, Масквы, Расіі, грамадскімі арганізацыямі ЗША і Канады падтрымала нашу творчую суполку і сённяшняе кіраўніцтва Саюза.

Глядзіць з надзеяй і грамадскасць нашай краіны. Прыйшло шмат лістоў, тэлеграм і заклікаў—не скарацца, не здаваць пазіцый. Змагацца за праўду і свае правы. Менавіта таму мы з памочнікамі ад Вашага імя спрабавалі адстойваць свае правы перад Мінфінам, хаця і з вялікімі цяжкасцямі, але падрыхтавалі зыск да Міністэрства інфармацыі – ініцыятара гвалтоўнага холдынгу. Час для такіх зыскаў не праходзіць. У іншых краінах страчанае вяртаецца і праз дзесяцігоддзі. А сёння важна быць у тым стане, калі, як напісаў паэт Алесь Аркуш:

***З апошняга хлеба запасу***
***Ты корміш птушку свабоды.***

Хай наша двухгаловае стварэнне адкіне, нарэшце, сваю даўнюю, чужую свабоднай істоце іпастась і будзе гэтай вольнай, абцяжаранай толькі клопатам палёту, птушкаю свабоды! І рашаць гэта могуць не ўлады, а толькі самі пісьменнікі, пытаючыся ў сваёй душы, сумлення і любові да Беларусі.

***24 верасня 2002 г.***

# САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ: ДЗЕЛЯ ЧАГО ЁН ПАТРЭБЕН?

**(Прамова Ніла Гілевіча на XIV з'ездзе пісьменнікаў Беларусі)**



Так, сапраўды, дзеля чаго ён патрэбен – і самім пісьменнікам, і грамадству, і дзяржаве, калі дзяржава стаіць на абароне нацыянальнай літаратуры, культуры, духоўнасці? Дзеля чаго – гэта сфармулявана ў Статуце СП. Галоўнае – абараняць прафесійныя правы літаратара, у тым ліку – права на свабоду творчасці, галоўнае – думаць і клапаціцца пра лёс роднай літаратуры і як яе не даць у крыўду, бо няма ў краіне іншай арганізацыі ці ўстановы, дзе б так ведалі, што такое ў жыцці грамадства літаратура і што ёй патрэбна, каб яна выконвала сваю гістарычную місію, як гэта ведае Саюз пісьменнікаў. У нас многія блытаюць прызначэнне, функцыі, ролю СП з высакароднымі абавязкамі Літаратурнага фонду. Гэтых важных абавязкаў – дзесяткі, дазвольце іх не пералічваць. Але зблытваць Саюз пісьменнікаў з Літфондам – не трэба, у СП – сваё высокае прызначэнне.

Некалькі прыкладаў з гісторыі рускай савецкай літаратуры.

Калі пайшоў з жыцця выдатны, вялікі паэт Барыс Пастарнак, "Литературная газета" паведаміла: памёр сябар Літфонду Б. Л. Пастарнак. Сябар Літфонду, а не сябар СП СССР, бо з СП ён быў выключаны – за творчасць, за бяскрыўдны раман "Доктар Жывага", за тое, што ён скарыстаў права распараджацца сваёй творчасцю, за ўзнагароду ягонай творчасці Нобелеўскай прэміяй. Гэта была ганьба на ўвесь свет – вялікі паэт пайшоў з жыцця зацкаваны, замучаны, апляваны. А што ж СП СССР, дакладней – яго кіраўніцтва, яго Рада? А дапамагала партыі і ўраду цкаваць і бэсціць паэта. Дык дзеля чаго патрэбен грамадству Саюз пісьменнікаў? Не Літфонд, падкрэсліваю, а Саюз пісьменнікаў.

У 1946 годзе былі выключаны з СП СССР вялікі паэт Ганна Ахматава і бліскучы сатырык Міхаіл Зошчанка. Пазбаўленыя права друкавацца і выдаваць свае творы, жылі галадаючы і прымалі ад сяброў – употайкі – хоць нейкія грашы, каб выжыць. Саюз пісьменнікаў нават не паспрабаваў іх абараніць. А яны ж не былі ворагамі, былі абсалютна лаяльнымі грамадзянамі Савецкай краіны. Дык дзеля чаго Саюз пісьменнікаў? Скажаце: гэта было яшчэ пры Сталіне! Так, вядома, пры Сталіне. Ну, а хто сказаў, што са сталінізмам у былых рэспубліках СССР пакончана і нават духу яго не засталося?

Выгналі за межы СССР Аляксандра Салжаніцына – за праўдзівыя кнігі, за тое, што сказаў "нельзя жить во лжи" і што вялікая ганьба для пісьменніка – заплюшчваць вочы на стан рэчаў і падтрымліваць татальную хлусню ў краіне. І што ж? Кіраўніцтва СП СССР спярша выключыла Салжаніцына з Саюза, а затым горача падтрымала выгнанне яго з Радзімы. Дык для чаго Саюз пісьменнікаў? Каб памагаць дзяржаве распраўляцца з талентамі?

*(Заканчэнне на ст. 4.)*

# Мова для нас - не толькі душа народа, а і наш рабочы інструмент

**(Выступ Генадзя Бураўкіна на XIV з'ездзе пісьменнікаў Беларусі)**

Шаноўныя калегі!
Паважаныя госці!
Сябры!

Прызнаюся шчыра, я доўга думаў, ісці ці не ісці на гэты з'езд, браць ці не браць на ім слова. Зусім не таму, што пры абыякавым маўчанні Саюза не раз балюча і несправядліва абражалі маю літаратурную і чалавечую годнасць, не таму, што, як і большасці сяброў нашай творчай арганізацыі, мне вельмі непрыемны той істэрычны вэрхал, вакол Саюза беларускіх пісьменнікаў, які ўжо некалькі месяцаў не сціхае на старонках самых розных газет, а таму, што ўсё часцей і часцей закрадваецца ў душу горкае, вярэдлівае пытанне: а, можа, і праўда аджыло сваё наша пісьменніцкае згуртаванне, дзе па-ранейшаму зоркамі першай велічыні свецяць вячыстыя імёны класікаў, дзе яшчэ так нядаўна добра было разам радавацца і спрачацца, адкуль на крылах роднага слова выляталі, падхопленыя тысячамі беларускіх сэрцаў, узнёслыя прызнанні ў любові да Бацькаўшчыны і поўныя нязгаснай веры гімны яе будучыні? Як мне здаецца, няма, на жаль, сёння ў нашага Саюза ні былога аўтарытэту, ні належнай грамадзянскай мужнасці, ні нярэдка нават проста прафесійнай адказнасці і салідарнасці. І ўжо збіраюцца крыклівай чарадой плакальшчыкі па савецкіх прывілеях, ужо швэндаюцца па рэдакцыйных калідорах зборшчыкі подпісаў пад петыцыямі аб згарбузаванні новай суполкі пакрыўджаных славянскіх "патрыётаў", ужо найбольш радыкальныя холдынгаўскія актывісты ўголас заяўляюць аб расколе і раздраі ў нашай сям'і... А ў чым справа, дзе тая грозная мяжа, што падзяляе, падзяліла ўжо, майстроў мастацкага слова на "правых" і "левых", "нацыяналістаў" і "аб'ядняльшчыкаў", "канфармістаў" і "апазіцыянераў"? У чым прычына, сутнасць іх разыходжанняў і ўзаемных папрокаў і абвінавачанняў?



Давайце не будзем хітраваць адзін перад адным, адкінем шалупінне фальшывага пафасу і дыпламатычных фармулёвак і скажам урэшце рэшт, што галоўная прычына і сутнасць усіх канфліктаў і рознагалоссяў у пісьменніцкім асяродку не ў розніцы мастацкіх крытэрыяў, не ў супрацьлегласці арыентацый – на Захад або Усход, а ў адносінах да лёсу нацыянальнай дзяржавы, а адсюль, і ў стаўленні да ўлады, якая гэтай дзяржавай кіруе.

*(Заканчэнне на ст. 4.)*

# САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ: ДЗЕЛЯ ЧАГО ЁН ПАТРЭБЕН?

### (Прамова Ніла Гілевіча на XIV з'ездзе пісьменнікаў Беларусі)

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 3.)*

У Аляксандра Твардоўскага ЦК КПСС адабраў "Новый мир", пасля чаго вялікі паэт неўзабаве і памёр – не перанёс знявагу і крыўду. Адабралі ў яго часопіс на радасць шэрым пісакам і разбойнікам ад літаратуры. "Новым міром" Твардоўскага Расія будзе ганарыцца ў стагоддзях. Але ж гэту ганебную расправу з паэтам і яго часопісам падтрымала кіраўніцтва СП СССР! Дык для чаго, запытаемся зноў, патрэбен Саюз пісьменнікаў? Для таго, каб спрыяў развіццю сапраўды таленавітай, праўдзівай, мужнай літаратуры – ці для таго, наадварот, каб тармазіць гэтае развіццё? Знішчыць найлепшы часопіс, а заадно і яго рэдактара – гэта клопат пра вялікую літаратуру, пра росквіт мастацкага слова? Скажаце: дык гэта ж было пры Брэжневе і Суславе! Так, вядома. Ну, а хто сказаў, што вульгарная брэжнеўская салдафоншчына і суслаўскія "палачкі Коха", што ўводзіліся ў жывы арганізм літаратуры, больш ужо нам не пагражаюць? Дык для чаго існуе і павінен існаваць Саюз пісьменнікаў?

Калі мы не будзем памятаць, якая страшная крывавая разня адбывалася ў беларускай літаратуры ў 30-я гады. Колькі таленавітых паэтаў і пісьменнікаў склалі галовы – дык а што мы тады павінны помятаць з гісторыі нашай літаратуры і нашага Саюза? І ці будзем думаць, чаму гэтая трагеныя мела месца, і з чаго пачыналася, і якая ў гэтым роля саміх пісьменнікаў? Ці заплюшчым вочы на тое, што раней, чым быў арыштаваны і сасланы ў высылку светай душы паэт і сын Беларусі Язэп Пушча, у рэспубліканскай газеце быў апублікаваны крыважэрны артыкул сябра пісьменніцкай арганізацыі (БелАПП) пад загалоўкам "Пушча – не наш!" Не наш – і ўсё! І на 26 гадоў Язэп Паўлавіч быў выкінуты з літаратуры. На шчасце, застаўся жывы. Я згадаў пра лёс Язэпа Пушчы, а такіх жа і больш трагічных лёсаў – дзесяткі, дзесяткі, дзесяткі!

Нядаўна адзін надзелены ўладай літаратурны чыноўнік кінуў заклік не друкаваць у часопісах і газетах Васіля Быкава і яшчэ чатырох пісьменнікаў – як "палітычна непісьменных". Не як бяздарных графаманаў, а як палітычна непісьменных. Скажыце, хіба гэта не той самы вердыкт "Пушча – не наш!"? І які ж будзе крок наступны? Выкідваць з бібліятэк кнігі гэтых "палітычна непісьменных"? А затым і саміх іх – з жыцця?

Паважаныя спадарыні і спадары! Гаварыць пра гэта крайне непрыемна. Але – неабходна. У гэтым не было б патрэбы, калі б дзяржава належным чынам рэагавала на падобныя выпады і засведчыла, што яна сапраўды стаіць на абароне нацыянальнай літаратуры і ставрае ўмовы для нармальнай жыццядзейнасці Саюза, для творчай працы пісьменнікаў. Прыемна гаварыць іншае: давайце, сябры, прыйдзем да ўзаемаразумення і не дапусцім расколу! Ну давайце! Канешна ж лепш, каб Саюз быў адзіны і быў цесна з'яднаны адным, галоўным для ўсіх нас, клопатам. Якім – я думаю, вы ўсе разумееце. Як і 20, і 30, і 40 гадоў назад, мы, беларускія пісьменнікі, знаходзімся ў асаблівым становішчы. Ні ў адной былой рэспубліцы былога СССР такога няма. Нідзе там не ўбачыш, каб так выганялася адусюль і душылася родная мова, каб так цынічна прыкрывалі фігавым лістком сорам – перад сваім народам і перад усім светам.

Скажу з усёй шчырасцю: утварэнне гэтак званага холдынгу "Літаратура і мастацтва" інакш не назавеш, як пагром. Чаму і нашто спатрэбілася вызваляць ад пасад – без згоды СП – рэдактараў літаратурных часопісаў? Хіба іх віна ў тым, што вельмі добра працавалі як рэдактары, надта дбайна клапаціліся пра таленавітую беларускую літаратуру? Дык жа "вялікая віна"! А як зразумець ліквідацыю выдавецтва "Юнацтва"? Гэта – у клопатах пра развіццё літаратуры для дзяцей? Гэта, прабачце, дзяржаўны падыход да справы? Помню, як мы, пісьменнікі, доўга-доўга дабіваліся. Каб гэтае выдавецтва было заснавана, каб забяспечыць дзяцей і моладзь добрай беларускай кнігай. І вось – на табе! Камусьці можа не спадабацца маё меркаванне. Але – а як быць, калі гэта праўда? І калі апраўдання гэтаму няма. Як паверыць, што дзяржава сапраўды дбае пра патрыятычнае выхаванне маладых пакаленняў? Патрыятызм – без любві да роднай мовы?

Я чытаў артыкулы некаторых удзельнікаў перадз'ездаўскай дыскусіі. Уражанне, што сёй-той усё яшчэ не зразумеў, якія велізарныя перамены адбыліся ў свеце, у гістарычным лёсе многіх краін і народаў, у тым ліку і ў лёсе Беларусі. Пішуць, што вось некалі СП БССР жыў-пажываў хораша, зладжана, усім было добра і ўсе былі задаволеныя. Дарагія-паважаныя! Дык жа няма і не будзе той дзяржавы СССР, абсалютна бяспраўнай часткай якога была БССР. І няма і не будзе таго СП СССР, абсалютна бяспраўнай часткай якога быў СП БССР. Падкрэсліваю: абсалютна бяспраўнай! За мяжу беларускі пісьменнік мог з'ездзіць толькі з дазволу Масквы, нават выдаць зборнік твораў у Беларусі наша выдавецтва магло толькі з дазволу Масквы, і г.д., і г.д. Так што не варта ўздыхаць па мінулым, давайце глядзець наперад і зыходзіць з рэальнай гістарычнай сітуацыі. Мы пастаўлены ва ўмовы неймаверна цяжкія, і нам належыць вытрымаць экзамен на годнасць беларускага пісьменніка. Калі мы яго не вытрымаем – свет увесь будзе смяяцца з нас.

Я знаёмы ( па публікацыі ў "ЛІМе") з праграмай жыццядзейнасці СП, якую сцісла выклалі арганізатары З'езду. Там шмат разумнага, канструктыўнага, што неабходна будзе новаму кіраўніцтву СП і ўсім нам ажыццяўляць. Але ў дакументах З'езду акцэнт павінен быць зроблены на самым галоўным – гэта лёс роднай літаратуры, лёс роднай мовы, лёс роднай краіны. Паза гэтым клопатам існаванне Саюза пісьменнікаў проста траціць сэнс.

І апошняе – у сувязі са сказаным аб тым, што ў жыцці краіны і народа адбыліся і будуць адбывацца далей радыкальныя перамены. Новы век, які пачаўся,- не толькі каляндарна новы. Вялікая перабудова ўсяго і ўся і самога чалавека ў гэтым усім будзе працягвацца, і ашаламляльна хуткім тэмпам. Наўрад ці людзям пажылым за ёю ўгнацца. Моладзь адчувае ўсе гэтыя перамены лепш, непараўнана лягчэй у іх адаптуецца і хутчэй узброіваецца неабходнымі новымі тэхналогіямі асваення часу. І літаратуру XXI стагоддзя будуць ствараць маладыя – гэта натуральна. Старыя будуць дарабляць недаробленае. Значыць, і адказнасць маладых павінны браць на сябе ўжо сёння, - талент ёсць, эрудыцыя ёсць, энергіі і сілы, дзякаваць Богу, пазычаць не трэба. І розуму, каб не ігнараваць досвед старэйшых, - хопіць. Спадзяюся, што разуменне гэтага дапаможа нам зарыентавацца ў час выбараў кіраўніцтва Саюза.

# Мова для нас - не толькі душа народа, а і наш рабочы інструмент

### (Выступ Генадзя Бураўкіна на XIV з'ездзе пісьменнікаў Беларусі)

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 3.)*

Для шматлікіх чыноўнікаў і "славянасабораўцаў" Беларусь – паняцце перш за ўсё геаграфічнае і службовае. Яна для іх – месца працы ці камандзіроўкі, даволі выгадная пляцоўка для вырашэння глабальных, часта адкрыта імперскіх, эканамічных ці палітычных задач. Вось і вернуць яны свае насы і намаганні ад мовы, гісторыі і культуры беларусаў, бо якраз тут найбольш відавочна і поўна выяўляюцца наш нацыянальны характар і наша адметнасць у свеце. Мне смешна сёння чытаць у салідных афіцыйных газетах, што, аказваецца, усе восем апошніх гадоў найвышэйшыя асобы краіны толькі тым і займаліся, што няспынна мацавалі суверэнітэт і аўтарытэт Беларусі. Што – і тады, калі на шматкі дралі наш гістарычны сцяг, і тады, калі зачынялі беларускія школы, якіх, як ім падалося, развялося ў пачатку дзевяностых гадоў залішне многа, і тады, калі перапісвалі Канстытуцыю пад аўтарытарныя густы, і тады, калі з дня ў дзень, без перапынку дурылі галовы даверлівым суайчыннікам прыгожымі казанкамі пра адзіную саюзную дзяржаву, дзе будзе – гэта ж трэба дадумацца! – ажно два, а, можа, і ўсе тры суверэнітэты, тры прэзідэнты, тры сцягі і тры гімны?.. Мне крыўдна і няёмка сёння глядзець па тэлевізары на людзей, што, прыціскаючы рукі да сэрца, ледзь з не патрыятычнымі слязамі на вачах лементуюць за незалежнасць, лёгка адкінуўшы іхнюю ж любімую фармулёўку пра саюзную дзяржаву і гаворачы толькі пра саюз дзяржаў... А я памятаю, я не магу забыць, як яны душылі ініцыятыву склікання Усебеларускага з'езду за незалежнасць, як абвінавачвалі яго арганізатараў ледзь не ў нянавісці да вялікага рускага народа і яго выдатнай культуры... Не веру я іхнім гучным словам, бо не бачу іхніх канкрэтных дзеянняў, наадварот: адменены ў школах экзамен па беларускай літаратуры, пашырана расійскамоўная інфармацыйная прастора за кошт выпускаў навін так званага АНТ і звужана магчымасць выхаду да чытачоў самых выдатных і сдавутых нашых пісьменнікаў у выніку "касцянізацыі" радакцый усіх нашых літаратурных часопісаў...

Нехта з чыноўных гасцей, відаць, паблажліва зморшчыўся: ну вось, зноў пра мову. Так, зноў. Бо яна для нас, літаратараў, не толькі душа роднага народа, а і наш рабочы інструмент, не толькі святая малітва, а і зямная пакута. Ды і для палітыкаў мова – не абы што, не нейкая неістотная дробязь. Калі хто не знаёмы з "запаветам" губернатара Паўночна-Заходняга краю, сумна вядомага Мураўёва, працытую адзін з яго ных лістоў: ***"У Паўночна-Заходнім краі так званую беларускую мову неабходна звесці на нішто, бо калі гэтага не зрабіць, яна пастаянна будзе інспіраваць думку аб асобным беларускім народзе і аб праве гэтага народа на этнічную самастойнасць і нацыянальна-дзяржаўную суверэннасць, чаго дапусціць нельга".***

Вось так--проста, ясна, дакладна, нават надзённа... Так што каралі нашага размежавання якраз тут, у гэтым туга сцятым вузле, у якім сыходзяцца дзяржаўныя, палітычныя і асабістыя інтарэсы многіх і многіх у нашай краіне...

Разгублена шукаючы прычыны відавочнага падзення аўтарытэту роднай арганізацыі, я часта успамінаў і такую прызабытую, для таго-сяго, можа быць, старамодную, але зусім нялішнюю ў нашым асяродку рэч, як мараль. Як адчуванне няпісанага і ўсё ж неабходнага абавязку высокія словы сваіх кніг пацвярджаць і ўласнымі паводзінамі, асабліва калі справа датычыцца прынцыповасці і сумленнасці. Я не ведаю, на якое і чыё разуменне, не кажучы ўжо пра падтрымку, спадзяюцца некаторыя нашы калегі, калі раптам лезуць у саўтары да нябожчыка, калі прымаюць прэміі віртуальнай дзяржавы, рэальнае стварэнне якой непазбежна прывядзе да знікнення з палітычнай карты свету мілай нашай Радзімы, калі прынародна выцягваюць з магіл класікаў, каб у чарговым прыступе зайздрослівай нянавісці да іншадумцаў прыпісаць паважаным людзям свае зласлівыя памслівыя філіпікі, калі спакойна ўладкоўваюцца ў службовыя крэслы ўчарашніх сваіх аднадумцаў і таварышаў?.. Апраўдаць усё гэта пры даведзеных у наш час да небывалай вытанчанасці папулізме і дэмагогіі, напэўна, можна, але зрабіць выгляд, што за плячамі ў гэтых, няхай і таленавітых і вядомых людзе, белыя крылы анёлаў, немагчыма...

Я разумею, што той-сёй гатовы ўжо зларадна гукнуць мне: а дзе ж роздум пра літаратуру, пра кнігі, пра ўзаемадачыненні творчых пакаленняў, пра выдавецкія справы?... Сапраўды, я болей кажу пра Саюз пісьменнікаў, пра тое, што робіцца ў ім і вакол яго, бо лічу – нягледзячы ні на што, родная беларуская літаратура будзе жыць, будзе развівацца і мацнець, як бы хто не каркаў пра яе занепад і кананне. Але каб творцы (а ўсе мы – жывыя, зямныя людзі) заўсёды адчувалі і разуменне, і падтрымку, і ўвагу калег, думаю, нам неабходны Саюз пісьменнікаў, прынцыповы, мужны, згуртаваны. А то нядаўна мімаходзь сустрэў я аднаго з тых, хто прэтэндуе (як яму здаецца, тайна, а на самай справе відавочна) на кабінет у нашым кгульным доме, дык ён ажно свяціўся ад радасці, што меў нарэшце гаворку з шараговым чыноўнікам на вуліцы Карла Маркса і нават здолеў угадаць думкі і спадзяванні таго наконт сённяшняга з'езда. Міжволі прыгадаў я даўнія радкі бессмяротнага Купалы:

***З цэлым народам гутарку весці,***
***Серца мільёнаў падслухаць біцця, -***
***Гэткай шукаю цэлы век чэсці,***
***Гэта адно мне падпорай жыцця.***

Няўжо ў нас ужо іншыя мэты і жаданні?.. Не хачу ў такое верыць!..

Беларуская мова - ТБМ - наша будучыня

### *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Холасаў Ю. - 5000 р.
2. Дрэўголь А. - 1000 р.
3. Дзмітрыеў А. - 1473 р.
4. Кабзар - 1000 р.
5. Велахаў В. - 1000 р.
6. Маўглуга В. - 1000 р.
7. Красуцкі - 1000 р.
8. Мурашка - 1000 р.
9. М аксімаў А. - 1000 р.
10. Асіповіч Л. - 1000 р.
11. Незнаёмка - 10000 р.
12. Мікола Дзямід - 1000 р.
13. Ал. Катляроў - 1000 р.
14. Казлоўская І. І. г. Слуцк - 1000р.
15. Вячка Васілёнак ахвяраваў стос чыстай паперы
16. Шкірманкоў Фелікс, г. Слаўгарад - 5000 р.
17. Антон Фурс, г. Паставы - 5000 р.
18. Палсцюк Валер, г. Менск, - 5000 р.
19. Анатоль Храноўскі - 20 дол. Канады.
20. Канадская суполка з Таронта - 20 дол.
21. Генадзь Ляшко г. Менск - 2000 р.

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 30. 09. 2002 г.
Наклад 2500 асобнікаў. Замова № 1930.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 489 руб., 3 мес.- 1467 руб.
*Кошт у розніцу:* 120 руб.